

№ 31 (192)
Жнівень 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:






## На тым тыдні...

• **1 жніўня** ў Нацыянальнай бібліятэцы імя М. Мажвідаса ў Вільні адкрыта **выстаўка працаў беларускіх мастакоў** Аляксандра Грышкаўца, Сяргея Давідовіча, Васіля Касцючэнкі, Аляксандра Ксяндзова. Ініцыятарам правядзення стала амбасада Беларусі ў Літве. Генеральны дырэктар бібліятэкі Вітаўтас Гудайціс адзначае, што цэнтральную бібліятэку Літвы звязвае цеснае супрацоўніцтва з дзеячамі культуры нашай краіны, некалькі разоў у Літве экспанаваліся кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, праходзілі выставы беларускіх мастакоў. А ў верасні дэлегацыя літоўскай бібліятэкі наведае нашую Нацыянальную бібліятэку.

• **7 жніўня** ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча адбылася цёплая сустрэча творчай інтэлігенцыі Беларусі са знакамітым архівістам Віталём Скалабанам з нагоды яго 60-гадовага юбілею.

Кветкі, падарункі, успаміны – усё было на вечарыне, а найважней – была атмасфера ўзнёсласці, таму што ці не ўпершыню так хораша, з любоўю віншуюць архівіста, непрыкметную па многіх паказчыках постаць, забываючы, што без такіх спецыялістаў, як архівісты, бібліятэкары, музейшчыкі, не можа быць цывілізаванае краіны.

Не выпадкова чарговым добрым учынкам В. Скалабана (пра што ён паведаміў прысутным) стаў падрыхтаваны ім ліст да тых, хто «кіруе» намі, аб неабходнасці выпуску энцыклапедыі пад назваю «А-Б-М» (архівы-бібліятэкі-музеі). «КГ» падтрымлівае гэтую прапанову.

(Аб дзейнасці В. Скалабана чытач можа азнаёміцца ў № 29 «КГ».)

• **8 жніўня** ў выставачнай зале Брэсцкага абласнога грамадска-культурнага цэнтра адкрылі **персанальную выстаўку «Адліга»** 29-гадовага мастака з Іванаўскага раёна Янкі Рамановіча. У экспазіцыі – больш за 80 нацюрмортаў, пейзажаў, партрэтаў, карціны з серыі «Вясковы акварыум». Шмат увагі мастак надае свайму Палессю, этнаграфіі і вёскам, што адыходзяць у нябыт.

## Паштоўкі з радзімы Шагала

Гэтай вясной у Віцебску прайшоў конкурс візуальных мастацтваў «Арт-Сесія-2007», на якім была ўведзена эксперыментальная намінацыя «Памяці Майстра», прымеркаваная да 120-годдзя Марка Шагала. Пераможцам абяцалі дапамогу з выданнем паштовак.

Перамагла серыя паштовак студэнткі Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта Тамары Вярэйкі. І з дапамогаю музея Марка Шагала яна нядаўна аддрукавала працы накладам 500 асобнікаў. Паводле словаў супрацоўнікаў музея, серыя карысталася такой папулярнасцю, што ўвесь наклад ужо распрададзены.

*Паводле матэрыялаў інтэрнэта*

*Чым больш развітая нацыя, тым паўней самастойнасць кожнай асобы, і ў той жа час тым ахаваная асоба ад пасягненняў іншай*

*Д. Пісарэў*

# Смольня чакае

***Як вядома, бацька Якуба Коласа, ураджэнец вёскі Мікалаеўшчына сённяшняга Стаўбцоўскага раёна, быў леснікам і за час сваёй службы ў князёў Радзівілаў мусіў часта з вялікай сям'ёй мяняць месца жыхарства.***

Цяпер тыя мясціны, дзе нарадзіўся, рос і пачаў творчы шлях юны Кастусь (Канстанцін Міцкевіч), адзначаны музеямі «Шляхам Коласа». Калі пабываць у прыстаўбцоўскіх Акінчыцах, то можна пабачыць прыкладна тую хаціну, наваколле, дзе будучы песняр пабачыў свет; маляўнічая Альбуць дапаможа ўявіць, які тут быў побыт леснікоўвай сям'і, як падлетак Кастусь спазнаваў свет, хараство прыроды, што паклікала яго ў 12 гадоў напісаць першы верш «Вясна» і атрымаць першы аўтарскі ганарар (расчулены бацька падарыў яму за ўдала складзены твор сярэбраны рубель). Сённяшняя альбуцкая сядзіба характэрная тым, што яна з'яўляецца музеем адной кнігі – паэмы «Новая зямля» і прысвечана адлюстраванню жыцця, побыту леснікоўвай сям'і ў чатыры перыяды года; сядзіба ў Ластку паспрыяе паўней і глыбей спазнаць задуму, змест паэмы «Сымон-музыка».

Такі вось шлях (з заездам у Мікалаеўшчыну) 2 жніўня споўнілі пісьменнікі, музейныя супрацоўнікі, журналісты, каб завітаць у яшчэ адну Коласаву мясціну – у Смольню. Яна знакамітая тым, што пасля смерці брата клопат пра яго сям'ю ўзяў на сябе Антон Казімiравіч (у паэме «Новая зямля» дзядзька Антось), які купіў у сённяшнім Дзяржынскім раёне дом, перавёз яго на плыце па Нёмане і абладаваў тут. Менавіта ў Смольні некаторы час жыў і працаваў Якуб Колас пасля вяртання з турмы, сустрэў тут у 1912 годзе паплечніка Янку Купалу, калі маладыя паэты змаглі разам памеркаваць як пра сваю творчасць, так і пра тагачаснае ды будучае беларускай літаратуры.

А Смольня чакае наведвальнікаў: тут, у філіяле літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, адкрылася новая экспазіцыя. Пры адкрыцці дырэктар музея З. Камароўская, расказала пра задуму і змест новай экспазіцыі, уручыла музейныя дыпломы і падарункі ўсім супрацоўнікам філіяла, хто прысвяціў яго дзейнасці не адно дзесяцігоддзе. Старшыня Стаўбцоўскага райвыканкама Ул. Місько і намеснік начальніка аддзела ўстаноў культуры і мастацтва Мінскага аблвыканкама В. Макарава, загадчык аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама А. Грэкаў гаварылі пра неўмiручасць творчасці сёлетніх юбіляраў – Янкі Купалы і Якуба Коласа, адзначылі вялікі ўклад ва ўшанаванне іх мемарыяльных музеяў песняроў. Сын Якуба Коласа, доктар тэхнічных навук Міхась Міцкевіч, расказаў пра абставіны адкрыцця музея ў Смольні, прачытаў урыўкі з паэмы «Сымон-музыка». Пісьменнікі Алесь Рыбак, Леанід Левановіч, ураджэнцы Стаўбцоўшчыны Мікола Маляўка, Уладзімір Мархель, Генрых Далідовіч сказалі свае слова пра вялікі духоўны патэнцыял творчасці класікаў. Мікалаевец Алесь Камароўскі, які вярнуўся ў родную вёску і цяпер працуе экскурсаводам у музеі, пазнаёміў шматлікіх прысутных з новай экспазіцыяй.

*Уладзіслаў ЛУКАШЭВІЧ*



*Хата ў Смольні, дзе ўпершыню сустрэліся Я. Колас і Я. Купала (фота 1960-х гг.)*





## Веды пра Беларусь за мяжою

### ...праз славутыя мясціны

Пра нашыя славутыя мясціны павінны ведаць не толькі ў Беларусі. Пракладна так падумалі ў Полацку, і было вырашана стварыць дакументальны фільм пра гэты горад-музей. Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік цяпер рыхтуе сцэнар. У стужцы будзе апавядацца пра архітэктурныя і гістарычныя помнікі, якія мяркуецца ўнесці ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКО. Да напісання сцэнара прыцягнутыя навуковыя супрацоўнікі Полацкага Нацыянальнага музея-запаведніка, гісторыкі, архівісты, мастакі-рэстаўратары, спецыялісты па ахове помнікаў і святыраў.

12-хвілінны фільм раскажа пра Спаса-Праабражэнскую царкву Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра, пра Сафійскі сабор, пра гістарычныя тэрыторыі, звязаныя з асобаю заступніцы зямлі беларускай Еўфрасінні Полацкай. Ён стане часткаю дасье «Матэрыяльнае ўвасабленне духоўнай спадчыны Еўфрасінні Полацкай». Кансультуе аўтараў дасье доктар архітэктуры, прафесар Маскоўскага Дзяржаўнага архітэктурнага універсітэта, эксперт ІКАМОС (арганізацыі ЮНЕСКО, што займаецца пытаннямі аховы помнікаў культурнай і прыроднай спадчыны; прозвішча не названа. – «КГ»). Афіцыйнае прадстаўленне яго запланаванае на 10 студзеня 2008 года ў Цэнтры сусветнай спадчыны ЮНЕСКО.

### ...праз беларускую мову

Апошнім часам усё больш еўрапейскіх ВНУ даюць магчымасць сваім студэнтам вывучаць беларускую мову. Апошні прыклад – з Чэхіі, дзе ў Карлавым універсітэце з сёлетняга верасня ў тамтэйшых студэнтаў будзе магчымасць вывучаць нашую мову. З гэткай ініцыятывай выступілі студэнты інстытута славістычных і ўсходнееўрапейскіх ведаў філасофскага факультэта ўніверсітэта. Двухсеместравы курс беларускай мовы для пачаткоўцаў будзе выкладаць доктар Юрась Бушлякоў. Дэкан філасофскага факультэта доктар Міхал Стэглік у афіцыйным лісце з гэтай нагоды выказаў спадзяванне, што вывучэнне беларускай мовы стане «крокам на шляху ўзаемаразумення і больш цесных стасункаў з усімі беларусамі, якія маюць дэмакратычныя погляды». Найчасцей за мяжою беларускую мову вывучаюць студэнты-славісты, якія цікавяцца яе гісторыяй, а не ейным сённяшнім станам у краіне.

Варта зазначыць, што адпаведных курсы існуюць у тых навучальных установах, дзе вядуцца навуковыя даследаванні ў гэтай галіне – у ВНУ Берліна, Дрэздэна, Йены, Лейпцыга, Ольдэна (Германія), у Віленскім педагагічным універсітэце (Літва), ва універсітэтах Беластока, Варшавы, Кракава, Любліна (Польшча), ва ўніверсітэце Будапешта (Венгрыя), ва ўніверсітэце Бостана (ЗША). Навучаючца там паводле падручнікаў, падрыхтаваных у гэтай жа краіне. У Польшчы падручнікі друкаваліся з 1970-х гадоў, ва Украіне – з сярэдзіны 1990-х. У Германіі толькі за апошнія пяць гадоў выдадзена некалькі новых навучальных дапаможнікаў. Летась з'явіўся дапаможнік для венграў (пра яго «КГ» паведамляла ў № 21 за гэты год). Вывучаць мову іншаземцы могуць і на курсах Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску.

Лінгвістычныя даследаванні праводзяць беларусісты не толькі еўрапейскіх дзяржаваў, але і Канады, Ізраіля, Японіі... Старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Сяргей Запрудскі зазначае, што лінгвісты-беларусісты больш актыўныя за літаратуразнаўцаў, таму гісторыя і асаблівасці мовы вядомы за мяжой больш, чым помнікі літаратуры. Ён лічыць, што ўрад павінен разумець неабходнасць захадаў па прапагандзе дзяржаўнай мовы, бо знаёмства з ёю, цікавасць да яе дае падставы развіваць больш цесныя стасункі і супрацоўніцтва. Дзяржава, калі захоча, знойдзе магчымасць фінансаваць выкладчыкаў за мяжой. Напрыклад – у Кіеве, дзе дасюль беларуская мова не выкладаецца. Але тэндэнцыя дома, лічаць навукоўцы, не самая аптымістычная: можа адбыцца так, што праз колькі дзесяцігоддзяў нарвекцы ці беларусы, якія выраслі за межамі нашай дзяржавы, будуць размаўляць па-беларуску лепш за саміх так званых носьбітаў мовы.

*Паводле матэрыялаў інтэрнэта*

**Школьнае краязнаўства**

## Амаль стагадовая гісторыя!

З пачатку жніўня ў Мінску пачаў дзейнічаць яшчэ адзін школьны музей. Ён адкрыты ў СШ № 15 і называецца «Школьныя гады цудоўныя». У экспазіцыі – 12 стэндаў, якія распавядаюць пра гісторыю навучальнай установы, яе настаўнікаў і выпускнікоў. Вялікую дапамогу стваральнікам аказалі былыя настаўнікі і вучні, дачка даваеннага дырэктара ўстановы...

Падчас збору матэрыялаў знайшліся дакументы, што ўжо ў 1912 годзе гэта была школа пад нумарам 15 і знаходзілася на вуліцы Аляксандраўскай (сённяшняй імя Максіма Багдановіча); у 1978 годзе перанесена ў мікрараён Серабранка.

СШ можа ганарыцца такімі выпускнікамі, як мастачка Нінэль Шчасная, скульптар, ветэран Вялікай Айчыннай вайны Мікалай Фліпчанка, 4-разовая алімпійская чэмпіёнка па фехтаванні Алена Бялова.

Гэты музей – 98-ы школьны ў горадзе Мінску. Вялікую дапамогу і падтрымку стваральнікі больш-шасці з іх атрымалі ад загадчыцы аддзела краязнаўства МДТЭЦДзІМ Валянціны Іванаўны Яргольскай. Дарэчы сказаць, што нядаўна яна адзначала свой юбілей. Мы далучаемся да ўсіх шчырых словаў віншаванняў і зычэнняў, жадаем поспехаў на ніве беларускага краязнаўства.

*Ул. інф.*

## У Слоніме выпускалі запалкі

Першыя запалкавыя фабрыкі, як сведчыць Беларуская энцыклапедыя, у Беларусі з'явіліся ў другой палове XIX стагоддзя. На той час гэтыя прадпрыемствы выраблялі небяспечныя запалкі з прымессю белага фосфару (бяспечныя былі распрацаваны ў Швейцарыі ў 1855 годзе).

Напрыканцы XIX стагоддзя ў Беларусі працавалі ўжо 14 паўсаматужных запалкавых фабрык. Сярод іх была фабрыка і ў Альбярціне. Яе адкрылі О. Гавінавіцкі і Ю. і М. Маркусы. Фабрыка мела назву «Шчара».

У пачатку XX стагоддзя ў Слоніме з'явілася яшчэ адна прыватная запалкавая фабрыка «Край» Дубінбаўма і Штэйнберга. На гэтай фабрыцы працавалі прыкладна дзвесце чалавек. Умовы працы былі вельмі цяжкія. Таму 18 мая 1905 года на запалкавай фабрыцы «Край» адбылася забастоўка рабочых. Яны патрабавалі ад гаспадароў прадпрыемства скарачэння рабочага дня да 10 гадзін і павышэння заработнай платы на 20–30 %. Забастоўку рабочых запалкавай фабрыкі падтрымалі і іншыя прадпрыемствы горада.

Запалкавыя фабрыкі ў Слоніме праіснавалі да Першай сусветнай вайны. У 20–30-х гадах мінулага стагоддзя іх спрабавалі аднавіць, але з-за фінансавых праблем зрабіць гэта не ўдалося.

На жаль, матэрыялаў па гісторыі дзвюх запалкавых фабрык у Слонімскім краязнаўчым музеі і ў школьных музеях горада амаль не захавалася. Акрамя некалькіх этыкетак ад запалкавых пачкаў.




*Сяргей ЧЫГРЫН*

## Срэбныя крылы Айчыны

### (Да Дня ваенна-паветраных сіл)

У лётчыкаў іх лепшыя якасці найбольш поўна і яскрава раскрываліся ў розных экстрэмальных сітуацыях. Адна з іх – вайна. Мы памятаем герояў, лётчыкаў-асаў Першай сусветнай вайны: Аляхновіча, Касценчыка, Яфімава, Утачкіна, Несцерава... Дарэчы, лётчык Міхаіл Нікіфаравіч Яфімаў (1881–1919) у гісторыі ваенна-паветраных сіл лічыцца лётчыкам № 1. Многа легендарных асоб, лётчыкаў-асаў выявіла Вялікая Айчынная вайна. Хто сёння не ведае славутыя прозвішчы А. Пакрышкіна (у паветраных баях збіў 59 самалётаў ворага), І. Кажадуба (62), Н. Гуляева (57), Г. Рэчкалава (56)... Але ўпэўнены, мала хто ведае легендарнае імя – Іван Яўграфавіч Фёдараў. Ён удзельнік 9 войнаў і ваенных канфліктаў (Іспанія, Хасан, Польшча, Карэя, В'етнам), у гады вайны 1941–1945 гг. у паветраных баях знішчыў 134 фашысцкія самалёты, правёў аж 6 таранаў і толькі дзякуючы вялікім мужнасці і разліку застаўся жывым. Але аб ім мала хто ведае, бо аб ім не гаварылі па радыё, не пісалі ў зводках і газетах. Герой пастаянна быў у нейкіх канфліктах з НКУС, меў вельмі складаны і хуліганісты характар, увесь час нечым рызыкаваў... І толькі па гэтых прычынах яго імя ўвесь час было «засакрэчаным». Толькі ў 1948 г. за выпрабаванне новай адзіцыйнай тэхнікі ён атрымаў сваё першае званне Героя Савецкага Саюза. Іван Фёдараў пачаў рыхтавацца ў лётчыкі яшчэ са школы. Моцны і вынослівы ад прыроды, ён змог стаць майстрам у 6 відах спорту, валодаў імгненнай рэакцыяй, меў вельмі добрую памяць і аналітычны розум... Вось які лётчык-самародак назаўсёды застаўся ў гісторыі ваенна-паветраных сіл.

Мне давялося быць у «Музеі вогненных таранаў», які размяшчаецца ў Радашковіцкай школе-інтэрнаце імя М.Ф. Гастэлы. У кнізе ганаровых гасцей музея ёсць запіс і лётчыка-аса Б.І. Коўзана. Ён – наш зямляк. У гады вайны ён здзейсніў 4 тараны фашысцкіх самалётаў. І дзякуючы толькі сваім мужнасці і майстэрству застаўся жывым. А вядома: таран – амаль заўсёды гібель лётчыка. Хутка споўніцца 35 гадоў, як быў выкананы таранны ўдар па самалёце – парушальніку паўднёвай мяжы СССР ужо на рэактыўным самалёце МІГ-21. Цаной свайго жыцця у Закаўказзі яго выканаў наш зямляк – лётчык Г.М. Елісееў (сям'я Генадзя Мікалаевіча жыве ў Мінску). Першы Герой Беларусі – лётчык, падпалкоўнік Уладзімір Карват. Амаль усе зорныя героі-касманаўты – з ваенных лётчыкаў. 8 лётчыкаў сталі Героямі Савецкага Саюза ў афганскай вайне. Вялікую ролю адыграла ваенная авіяцыя ў Чачні, Чарнобылі... Але той, хто мае або меў хоць малое дачыненне да авіяцыі, ведае, што на першым плане заўсёды – лётчык, хаця на яго вылет працуюць не адзін дзесятак чалавек: інжынеры, тэхнікі, супрацоўнікі тылу, сувязі...



*Падчас адкрыцця помніка экіпажу М. Гастэлы: былы механік самалёта Л.М. Платонаў, жонка Р. Скарабагатага Марыя Кандратаўна, маці А. Бурдзенюка Паліна Феафанаўна, былы штурман 207-га авіяпалка Р.С. Лысоў, брат А. Калініна Андрэй Аляксандравіч*

Зусім незвычайнай прафесіяй авіяцыйнага журналіста авалодаў ураджэнец вёскі Баравікі (Крывіцкі сельсавет) палкоўнік Б.А. Макарэвіч. Ён з гонарам выконваў абавязкі ў Афганістане, амаль ва ўсіх «гарачых кропках» была СССР, працаваў у ваенных часопісах «Ориентир», «Сын Отечества». Жыццё ў авіяцыі, асабліва ў ваеннай, ні з чым не параўнальнае. Тут радасць і боль, весялосць і смутак заўсёды побач. Аўтар гэтых радкоў – таксама з ВПС.

Таму ніколі не забуду свайго «першынца» – МІГ-21. Колькі ў гэтай машыне чалавечай мудрасці, простых рашэнняў найскладанейшых тэхнічных праблем! Дзякуючы людзям звычайныя сплавы металу пераўтвараюцца ў імклівую птушку, у незвычайную чароўную казку! І калі ў небе чуецца гул самалёта, абавязкова паглядзіш уверх і ўспомніш маладосць і падзякуеш лёсу, што некалі і ты насіў пагоны колеру чыстага неба! Са святам, авіятары!

*Мечыслаў СТАНКЕВІЧ, г. Маладзечна*





# Святыня рэгіёну

*«...Апякунка наша,*
*Каралева наша,*
*дапамагай нам,*
*апякуй намі...»*

Будслаў! Гэтае старажытнае паселішча крывічоў на маўклівай, некалі паўнаводнай і багатай на рыбу рацэ Сэрвач ужо даўно стаіць у адным шэрагу з Туравам, Нясвіжам і Полацкам... У гэты шэраг яго паставіў народ у яго дзень нараджэння, 2 ліпеня. Кожны год ідуць і ідуць да святога Будслава паломнікі з Расіі, Прыбалтыкі, Польшчы. Хоць і не зусім блізкі шлях (Мядзельскі раён Мінскай вобласці, і да сталіцы – 150 км), але на нізкі паклон нашым продкам вядзе сюды сэрца, вялікая павага да мільёнаў вернікаў, да нашых традыцый і слаўнай мінуўшчыны, любоў да роднага сінявокага краю!



Удзячныя нашчадкі славы крывічаў

Гісторыі Беларусі Будслаў вядомы з 1504 года. У драўляных шалашах-будах жылі тут калісьці манахі, і па адной з легенд адгэтуль і пайшлі назвы паселішча – «Буда», «Будслаўе», «Будслаў». Чым ён толькі не быў і што ён толькі не пабачыў на сваім вяку. Давялося быць і воласцю, і гмінай, і паветам; жыў у складзе ВКЛ, Польшчы, Расіі. Яшчэ ў 1783 годзе манахі-бернардзінцы пабудавалі тут вельмі прыгожы мураваны касцёл у стылі барока. Ён выстаяў у разбуральных войнах, у розных палітычных віхурах і слаўна дайшоў да нас – яго нашчадкаў. І толькі за гэта яму нельга не пакланіцца.

Найбольшага ж росквіту Будслаў дасягнуў на пачатку XX стагоддзя, калі тут была пабудавана чыгунка Маладзечна–Полацк і была адкрыта станцыя «Будслаў». Найбольш жа яго праславіў цудадзейны абраз Маці Божай. Яшчэ ў 1598 годзе папа рымскі Клімент VIII падараваў яго мінскаму ваяводу Яну Пацу, калі той пасля доўгіх ваганняў усё ж змяніў веру: перайшоў з кальвінізму ў каталіцызм. Надыйшоў час, і Пац перадаў абраз каталіцкаму святару з Будслава Салакаю, а той у 1613 годзе дорыць абраз касцёлу. Як расказваюць, абраз вылечваў ад цяжкіх хвароб, ставіў на ногі нямоглых, з яго рабілі копіі-гравюры і распаўсюджвалі... Слава незвычайнага цудадзейнага абраза з Будслава разляцелася па свеце. Людзі дабіраліся сюды, хто як мог: на конях, на лодках па рацэ... Вельмі моцнымі былі вера і надзея на лепшае. І ўжо ў наш час, у 1996 годзе папа рымскі зноў абвясціў Будслаўскі абраз Маці Божай як заступніцу ўсёй Беларусі. А з 1998 года слава абраза ўзнаўляецца, і да яго штогод павялічваюцца паломніцтвы католікаў амаль з усяго свету. І абраз зноў дапамагае людзям вылечвацца і жыць!



***Мечыслаў СТАНКЕВІЧ,***
*г. Маладзечна*

# Вяртанне Ігната Храпавіцкага

***У старых журналісцкіх блакнотах наткнуўся на кароткі запіс-пытанне, адрасаванае, відаць, у першую чаргу самому сабе: чыё ж гэта падабенства магілы ў Кахановіцкім парку? Даволі прыкметнае заглыбленне-упадзіна была абкладзена чыесь клапатлівай рукою, але зацягнутае высокай травою забвення. Пытаў-перапытваў старых людзей вёскі Каханавічы, якія б маглі праліць святло на старажытную таямніцу, прыўзняць заслону над часам. «Мо тутэйшага памешчыка Храпавіцкага? Ён жа па расказах дзядоў-прадзедаў жыў некалі ў Каханавічах, вялікі чалавек быў, за просты люд гарой стаяў...»***

А між тым, пэўныя звесткі аб Ігнаце Храпавіцкім паціху збіраліся-накапліваліся ў Верхнядзвінскай раённай бібліятэцы: у навуковых выданнях, часопісах і газетах з'яўляліся публікацыі даследчыкаў, вучоных, не замоўчвала яго імя тагачасная прэса. Адсюль вынікала, што мястэчка Каханавічы, дзе 31 ліпеня 1817 года ў сям'і камергера Яўстаха Іосіфавіча Храпавіцкага нарадзіўся сын Ігнат, належала роду Храпавіцкіх ці не з XVI стагоддзя. Ды і сам род даволі вядомы і ў Рэчы Паспалітай, і ў Вялікім княстве Літоўскім, і ў Маскоўскай дзяржаве. Хатнюю адукацыю Ігнат атрымаў у свайго бацькі, камергера яго імператарскай вялікасці...

У навукова-літаратурным руху 1840-х гадоў ён прыкметна вылучаўся як чалавек шырокага кругагляду і яркага таленту, збіраў і даследаваў беларускі фальклор Віцебшчыны, цікавіўся гісторыяй Беларусі, супрацоўнічаў у літаратурна-грамадскім альманаху «Рубон», які выдаваў яго сусед Казімір Буйніцкі. Адзін з праграмных вершаў, што адкрываў нумар, – «Дзвіна»; тут змяшчаліся пераклады, публікаваліся гістарычныя дакументы і, вядома ж, вершаваныя творы.

Далёка не ўсе яго творчыя задумы былі ажыццёўлены, але і тое, што змог зрабіць, ставіць Ігната Храпавіцкага на значнае месца сярод даследчыкаў беларускага фальклору першай паловы XIX стагоддзя. Выклікае вялікую цікавасць буйная тэарэтычная праца «Погляд на паэзію беларускага народа», напісаная ў 1843 годзе і выдадзеная ў Вільні, з энтузіязмам сустрэтая лепшымі прадстаўнікамі маладой беларускай інтэлігенцыі. Гэта была першая гісторыка-параўнальная характарыстыка беларускай фальклорнай спадчыны. «Пісаў у Каханавічах» – прыпіска ў канцы артыкула. Рыхтаваў да друку другі зборнік «Поўны беларускі песнязбор», песні для якога збіраліся ў ваколіцах, запісаў, як сам зазначаў, «вялікую колькасць песень выключна лірычных».

А ў 1850 годзе разам з аднадумцамі распрацаваў праект скасавання паншчыны і правёў яго большасцю галасоў на з'ездзе дваран Віцебскай губерні, ды праект не набраў сілу закону. Перастаў выходзіць альманах «Рубон» (старажытная назва Дзвіны), а тых, хто падтрымліваў даследчыцкую працу Храпавіцкага, у прыватнасці, Р. Падбярэзскага, арыштавалі і саслалі на вечнае пасяленне. Самога Ігната Яўстахавіча вызвалілі ад пасады наглядчыка сельскіх запасных магазінаў Дрысенскага павета, на якой працаваў з 1843 года. Восем доўгіх гадоў яго нікуды не выбіраюць, і толькі з цягам часу ён увойдзе ў губернскі камітэт для выпрацоўкі прапаноў па паляпшэнні быту прыгонных, стане маршалкам двара Дрысенскага павета.

І ўсё ж зробленае на грамадскіх пасадах не прападае дарма: у 1861 годзе за садзеянне па скасаванні прыгоннага права Ігнат Храпавіцкі атрымлівае медаль разам з імператарскай падзякай. Да апошніх дзён жыцця (памёр у 1893 годзе) Ігнат Яўстахавіч быў маршалкам Віцебскай губерні. Пахаваны ў Каханавічах разам з жонкай Саламеяй. І так ужо сталася, што памяць пра яго была пахавана для землякоў наступных пакаленняў. Зазначым, што падобны лёс на Беларусі напаткаў і тых з «паноў», хто так ці інакш дбаў і нават пацярпеў за падуладных людзей. Ды травой забвення ніколі нішто не парастае: у Каханавічах здолелі вярнуць памяць пра духоўныя каштоўнасці, імя заслужанага чалавека. Урач мясцовай бальніцы Пётр Кявіцкі і ягоныя аднадумцы з клуба «Белыя вароны» прыклалі шмат сіл і намаганняў, каб пры садзейнічанні мясцовых і раённых улад аднавіць магілы Храпавіцкіх. Вось і прыйшоў час адкрыцца даўняй таямніцы: магіла чалавека, які рызыкнуў спыніць прыгон раней на дзесяць гадоў, была па-дзікунску разбурана ў XX стагоддзі нашчадкамі вызваленых сялян і спагаленай заставалася да 1993 года. Своеасаблівым помнікам стала і выданне кнігі «Памяць» Верхнядзвінскага раёна, падрыхтаванай краязнаўцам і паэтам Антонам Бубалам, куды ўвайшлі і каштоўныя звесткі пра Ігната Храпавіцкага, сабраныя рэдкія матэрыялы пра яго.

***Эдуард ЗУБРЫЦКІ,***
*пісьменнік, журналіст,*
*г. Верхнядзвінск*



Фота з радзімы Храпавіцкага: рака Дрыса, від з Княжыцкага гарадзішча

*Ігнат ХРАПАВІЦКІ*

**Дзвіна**

*Даўно ўжо спіць Дзвіна,*
*Атуленая млой,*
*І раптам сонныя*
*Узяліся кіпнем хвалі,*
*Як быццам ім*
*Чагосьці не ставала,*
*І вёў Рубон*
*У цемры векавой:*

*«О дзеці! Сорам вам –*
*Такі глыбокі сон.*
*Прачніцеся –*
*За годам год праходзіць.*
*Чакаю.*
*Нашых сіл,*
*Што копіцца здавён,*
*Няўжо ніхто яшчэ*
*Ніколі не знаходзіць?*

*Бярыце ліру, плуг –*
*Даўно прыйшла пара.*
*Я дам вам сілы, моц*
*І чыстыя імкненні,*
*Каб толькі вечна*
*Узыходзіла зара*
*І ў хвалях маіх*
*Чэрпала натхненне.*

*Вада мая*
*У даўнія часы*
*Пажарамі, крывёй*
*Палала і кіпела.*
*Цяпер мяне*
*Птушыныя калышуць галасы*
*І ў жылах моц маіх,*
*Калісьці змізарнелых...»*

*Пераклад з польскай*
*Эдуарда Зубрыцкага*

*Наш каляндар*

# «Я са свайго народа не выходзіў...»

**Выпала так, што, як і аднагодак Янка Брыль, Пімен Панчанка таксама 90 гадоў таму, у пераломным 1917 годзе, пабачыў свет і таксама за межамі Беларусі. Перад гэтым яго бацькі пакінулі вёску Гедэйкі Ашмянскага павета Віленскай губерні і падаліся шукаць заробку ў Прыбалтыку. Там, у Таліне, і нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Піменам.**

Неўзабаве, у няпросты час, сям'я вярнулася ў Беларусь, і бацька зноў быў заклапочаны пошукам сродкаў, шукаючы іх на пасадах аб'ездчыка, прараба, лесавода ў Бягомлі, Кіраўску, Талачыне. Жыццёвыя нястачы рана змусілі будучага паэта шукаць працу, таму ён пасля сямігодкі пачынае працаваць рабочым дрэваапрацоўчага камбіната ў Бабруйску, заканчвае гадавыя педагагічныя курсы і настаўнічае спачатку ў Алянскай пачатковай школе Бабруйскага раёна, затым у Казуліцкай НСШ на Кіраўшчыне, а ў 1938–1939 гадах выкладае мову і літаратуру ў Кіраўскай СШ і адначасова завочна вучыцца на філфаку Мінскага настаўніцкага інстытута. Як і часта тады здаралася з ягонымі равеснікамі, у верасні 1939-га яго прыкліканы ў армію, і ён удзельнічае ў вызваленчым паходзе ў Заходнюю Беларусь. І хоць паход той быў кароткі, але выйшла так, што яму прыйшлося насіць вайсковую форму ажно да 1946-га.

У час вайны ён, паэт (першыя вершы былі надрукаваныя яшчэ ў 1934 годзе, а да вайны выйшлі два зборнікі ягонай паэзіі) супрацоўнічае ў розных армейскіх газетах, піша вершы, фельетоны, а ў 1944-м лёс закідвае яго з часцямі Чырвонай Арміі ў далёкі Іран. Пасля вайны працуе загадчыкам аддзела ў «Вожыку», галоўным рэдактарам «Советской Отчизны» (пазней «Нёман»), «Маладосці», з 1966 па 1972-гі быў сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Не адно дзесяцігоддзе яго, франтавіка, выдатнага паэта і мужнага чалавека, абіралі дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

Пасля вайны Пімен Панчанка становіцца аўтарам многіх паэтычных зборнікаў («Табе, Беларусь», «Дарога вайны», «Далёкія станцыі»), свае ўражанні пра знаходжанне ў Іране адлюстраваў у цыкле «Іранскі дзённік». У названых кнігах, як і ў пазнейшых («Гарачыя вятры», «Прысяга», «Кніга вандраванняў і любові», «Тысячы небасхілаў», «Снежань», «Крык сойкі» і інш.), ён быў самы разнастайны. Пісаў пра суровую ваенную праўду, пра пасляваенную адбудову, па-франтавому асуджаў прыстасаванцаў і хапуг. Многія яго вершы выклікалі абурэнне ў чыноўнікаў і ідэолагаў (паэта нават збіраліся выключаць з партыі), але ён не саступаў, пастаянна прытрымліваўся кодэксу гонару і годнасці. І перамагаў, даваў яркі прыклад грамадзянскасці, высокага служэння літаратуры. Не выпадкова быў высока ўганараваны – лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1968, за кнігу «Пры святле маланак»), народны паэт Беларусі (1973), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1981, за кнігу вершаў «Где ночует жаворонок?»), Ганаровы акадэмік НАН Беларусі (1994).

Хіба не актуальна гучаць і сёння радкі з Панчанкавага верша «Жыццё маё...» (1965), што быў змешчаны ў зборніку «Пры святле маланак»:

*Гаворыце,*
*што выйшлі вы з народа?*
*Куды? Чаму?*
*Якой цяпер пароды?*
*Я са свайго народа*
*не выходзіў,*
*І жыць да скону*
*буду у народзе.*
*Мне сорамна агітаваць,*
*Каб людзі больш і больш*
*рабілі,*
*Мясілі гліну, валуны драбілі:*
*Ён ведае і сам,*
*як працаваць...*
*Жыццё маё,*
*ты столькі мела стратаў,*
*Што на паўстанку ціхім*
*не сысці.*
*Я перад вамі*
*вечна вінаваты,*
*Усе, каму нялёгка у жыцці:*
*Перад калекамі –*
*За ўсе іх пакуты,*
*Перад сінімі рэкамі –*
*За патокі атруты,*
*Перад птушкамі –*
*За браканьераў,*
*Перад памяццю мужных –*
*За чыёсьць нявер'е,*
*Перад старымі –*
*За кніжак убогасць,*
*Перад маладымі –*
*За хлусню дэмагогаў...*

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**


Пімен Панчанка і Рыгор Барадулін, 1980-я гады




# 490 гадоў з друкаванай кнігай

*(Заканчэнне. Пачатак у № 30)*

Іці не Скарыну абавязана такое шчаслівае выключэнне, што мы, беларусы, сёння маем партрэты сваіх ранніх дзеячаў друку, такіх, як Сымон Будны, Васіль Цяпінскі... Бо, як ні шкада, гісторыя кнігадрукавання не ведае партрэтаў ні Швайпольта Фіёля, ні Івана Фёдарава, ні яго паплечніка Пятра Мсціслаўца...

Вось ён глядзіць на нас праз глыбіню стагоддзяў з 1517 года. На ім доктарская мантыя, берэт, з-пад якога выбіваюцца густыя доўгія валасы. Ён сядзіць у нізкім крэсле перад пюпітрам, трымаючы ў правай руцэ пяро, на момант як бы адарваўшыся ад кнігі, што разгорнута перад ім. Справа ад яго стаіць на падстаўцы другая кніга. З пюпітра звісае вузкі абрус з арнаментам і махрамі. На абрусе – вялікі герб, які можна ўбачыць і на іншых Скарынавых гравюрах: сонца, прысlоненае маладзіком...


Выява Ф. Скарыны (мал. М. Байрачнага паводле знакамітай гравюры першадрукара)

Біблія была асноўнаю кнігаю таго часу. Яе міфы і паданні вывучалі ва ўсіх школах. Яе творы перамалі, цыталі. Але не ўсе кнігі аднолькава. Царква, хочучы трымаць народ у цямноце і паняверцы, якраз усяляк вылучала з біблейскіх кніг тыя, дзе даваліся фантастычныя, казачныя ўяўленні старажытных пра стварэнне свету богам, пра патоп, дзе казалася пра паслушэнства бедных перад багатымі, дзе апраўдваўся прыгнёт. Затое найменш яе цікавілі іншыя творы Бібліі, якія дыхалі сапраўднай паэзіяй і не мелі ў сабе ніякай рэлігійнасці, скажам, «Песня песняў» – адна з найвялікшых паэм чалавецтва пра каханне. Рэлігійныя кніжнікі яе не толькі ніколі не перамалі, але рэдка калі цыталі.

І як характэрна, што якраз гэтаму твору Скарына аддае сваё найбольшае замілаванне. Усе пражскія кнігі адбіты адною чорнаю фарбаю, а «Песня песняў» аддрукавана Скарынаю ярка, у два колеры – чырвоны і чорны.

У тыя часы царква дазваляла чытаць Біблію толькі духавенству і тым аддзяляла сваіх служак ад усіх астатніх людзей. Друкаванне біблейскіх кніг для простых людзей на іх мове было тады змаганнем за роўнасць, за павагу да роднай мовы. Наша мова ніяк не горшая за гэтыя «боскія» – грэчаскую, лацінскую...

Быць чалавекам без веры было амаль немагчыма тады. Але дзіва, што нідзе Скарына ў сваіх прадмовах і пасляслоўях да біблейскіх кніг не выяўляе цікавасці да веры. Ён перакладае і выдае гэтыя кнігі не дзеля таго, каб «ратаваць» душу сабе і сваім чытачам, а таму, што бачыць у кнігах матэрыял для «навучання сямі вызваленых навук дастатковы». У прадмове да «Псалтыра» ён піша, што гэта «детем малым як початок всякое доброе науки граматы...». І пасля, перабіраючы па чарзе, ён зазначае, якая з кніг да чаго прыдатная, з якой можна даведацца пра «ваенныя, гераічныя справы», а з якой «умець арыфметыку», а з якой «землямер'е», астраномію – навуку пра зоркі і гэтак далей.

У гэтым пераліччэнні сямі вызваленых навук чуваць Скарынаў клопат быць універсітэтам для простых людзей, даць ім у рукі кнігу, якая была б энцыклапедыяй у розных галінах ведаў.

***Гэтай вялікай надзеяй на кнігу, на яе ролю ў культурным, маральным узгадаванні народа і блізкі нам сёння Францыск Скарына.***


Старадрукі Ф. Скарыны ў бібліятэцы Акадэміі навук Расіі (Санкт-Пецярбург)

Анатоль КЛЫШКА




*(Працяг. Пачатак у №№ 3–30)*

Праўда, у студзені 1916-га для Купалы і яго родных адбываецца значная падзея: у 33-гадовым узросце ў Петра-Паўлаўскім касцёле ён бярэ шлюб з Уладзіславай Францаўнай Станкевіч. Але ў канцы месяца ўжо ў вайсковай форме пераязджае ў Мінск, дзе служыць пад кіраўніцтвам жончынага брата старшым рабочым дарожна-будаўнічага атрада Варшаўскай акругі шляхоў зносін, а летам пераводзіцца ў Полацк. Хоць няма ўжо «Нашай Нівы», і ён не на абыякой, а на вайсковай службе (у Вільні па дазволе германскіх уладаў пачала выходзіць беларускамоўная газета «Гоман», а на Віленшчыне адкрываюцца беларускія суполкі і школы), Віленскі акруговы суд не спыняе супраць яго справу, але ўрэшце пакідае яго ў спакоі.

З пачатку 1917-га працягваецца папулярнае шэсце «Паўлінкі» ў Вільні, дзе моцна разгарнуўся беларускі рух, і ў прыфрантавым, але пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў Петраградзе рэвалюцыйна абноўленым Мінску, дзе ў красавіку з'явілася Першае таварыства драмы і камедыі, заснаванае Ф. Ждановічам пры ўдзеле І. Буйніцкага і У. Фальскага, пачаліся шматлікія гастролі па Беларусі, што ў наступным годзе дасць магчымасць адкрыць прафесійны беларускі савецкі тэатр, сабраць буйныя творчыя сілы (П. Мядзёлка, У. Галубок, А. Ільінскі, К. Саннікаў, С. Станюта, М. Чарот і інш.) У ліпені 1917-га гэтае таварыства ў Мінску ў гарадскім тэатры пакажа па аўтарскім рукапісе Купалаву драму «Раскіданае гняздо». Увосень яе аўтара пераводзяць з Полацка ў Смаленск. адтуль ён 16 ці 17 снежня прыязджаў у Мінск і прысутнічаў на дазволеным савецкім урадам Усебеларускім кангрэсе. Але калі з'езд выказаўся за нацыянальна-дзяржаўную незалежнасць Беларусі, то бальшавікі ў Мінску (А. Мяснікоў і іншыя) яго, з'езд, разагналі, а самых актыўных беларускіх дзеячаў арыштавалі і пасадзілі ў астрог. Купала за ўсім гэтым, як мог, назіраў са Смаленска, дзе ўлетку 1918-га здолеў атрымаць пасведчанне агента аддзела забеспячэння Заходняй вобласці (так называлі Беларусь). Менавіта адтуль ён не мог не сачыць уважліва за Масквой – за тым жа Беларускім нацыянальным камісарыятам (аддзел Наркамата па справах нацыянальнасцей РСФСР), што ўтварыўся напрыканцы студзеня 1918-га, меў аддзяленні ў розных расійскіх гарадах, вёў палітычную і культурна-асветную работу сярод беларусаў Расіі (бежанцы), адкрываў беларускія школы, арганізаваў беларускі народны універсітэт у Маскве, выдаваў літаратуру на беларускай і рускай мовах, склікаў Усерасійскі з'езд бежанцаў з Беларусі і меў друкаваны орган – газету «Дзянніца». Лідэрам Белнацкама стаў удзельнік рэвалюцыі 1905–1907 гадоў, пісьменнік Цішка Гартны (Зм. Жылуновіч).

Калі Купала тады мог не ведаць усіх перыпетый узнікнення БНР, то перыпетыі ўтварэння БССР ведаў добра: меў зносіны з Зм. Жылуновічам, пастаянна чытаў «Дзянніцу» (часамі пісьмова прасіў даслаць яму асобныя нумары).

# Янка Купала ў Вільні

***(Заканчэнне. Пачатак у № 30)***

Янка Купала і Якуб Колас былі заўсёды самымі блізкімі прыяцелямі. Мацавала іх дружбу тое, што яны амаль у адзін час выйшлі на літаратурную ніву, іх аб'яднала агульнасць поглядаў на развіццё беларускага руху, жаданне ўбачыць свой народ сацыяльна і нацыянальна вызваленым. Не было амаль ніводнага нумара газеты «Наша Ніва» ці часопіса, дзе б не друкаваліся творы Якуба Коласа і Янкі Купалы. Іх творы як бы пераклікаліся.

Я. Купала быў вельмі горды, ніколі не любіў скардзіцца на свой лёс. Любімым адпачынкам Я. Купалы быў тэатр і музыка. Каб пайсці ў тэатр ці на канцэрт, ён адмаўляў сабе ў абедзе.

Частку лета 1913 года Я. Купала праводзіў у сваёй маткі ў фальварку Акопы. Недалёка ад Акопаў, вярсты за 3–4, жыў мой брат, у якога я ўлетку адпачывала. Брат мой Станкевіч служыў вінакурам у памешчыка Чаховіча, унука таго самага старога паўстанца Чаховіча, у якога браў кніжкі ў дзяцінстве Я. Купала. У часе прабывання свайго ў Акопах Я. Купала быў частым госцем у нас, часам заставаўся на некалькі дзён. Часта ён прасіў мяне заспяваць якую-небудзь беларускую на-



*Беларуская настаўніца У. Станкевіч, пазней – жонка Я. Купалы*



*Дом у Вільні, дзе размяшчаўся рабочы клуб «Сокал»: тут у 1913 г. ставілі п'есу «Паўлінка»*

родную песню. Асабліва любіў ён «Ці ў полі, ці ў полі не бярозка расла». Я. Купалу падабаліся гэтыя словы, і ён напісаў верш «Ці на небе, ці на небе не мільён зорак свеціць».

Купала часта скардзіўся на адзіноцтва, называў сябе сірацінай. У кампаніі Янка Купала быў вельмі сарамлівым. Ён не ўмеў весяліцца. Часам толькі Цётка ўмела ўцягнуць яго ў гульню:

– Давай, Купалка, паскачам, давай патанцуем!

І тады Купала танцаваў, неяк смешна, дробненька, польку ці «Лявоніху».

У гэты час Купала напісаў шмат новых вершаў: «А ты, сіраціна, жыві», «Песняй толькі жыву я», «Коціцца крыніца», «Калядная ночка», «У бяссонную ноч», «З вячэрніх дум», паэмы: «Яна і я», «Песня», «Магіла льва» і «Бандароўна».

Першы нумар газеты «Наша Ніва» пад рэдакцыяй Я. Купалы выйшаў 22 лютага 1914 года.

Пачалася імперыялістычная вайна. Вільня стала прыфрантавым горадам. Вайна паклала адбітак на літаратурнае жыццё. Не выходзіла амаль ніводнага нумара газеты «Наша Ніва», у якой бы не было слядоў цэнзуры – белых палос.

Працаваць у рэдакцыі «Нашай Нівы» Я. Купалу было цяжка, бо вакол газеты групаваліся людзі розных палітычных кірункаў. Янка Купала не падзяляў многіх іх поглядаў: яму прыходзілася часта спрачацца. Янка Купала быў супраць вайны 1914 года. Свае думкі ён выказаў у вершах «Песні вайны», «Вясна 1915 года» і ў іншых.

У жніўні 1914 года ў Вільню прыехаў В.Я. Брусаў. Прыезд яго быў надзвычайнай літаратурнай падзеяй. Адбылося некалькі вечароў, на якіх рускі паэт выступаў з чытаннем сваіх твораў. Успамінаецца адзін вечар, які адбыўся ў памяшканні літоўскага клуба «Рута».

Зала была поўная народу. У зале чуліся мовы: польская, руская, літоўская. На гэтым вечары быў і Янка Купала. Яго пазнаёмілі з В.Я. Брусавым. Яны ў Вільні сустракаліся некалькі разоў на таварыскіх вечарах. Брусаў наведаў беларускую кнігарню і рэдакцыю газеты «Наша Ніва».

Рэдакцыя газеты «Наша Ніва» сумесна з рэдакцыяй «Вечерней газеты» наладзілі таварыскую вечарынку ў гонар паэта. Брусаў зрабіў вялікае ўражанне на Янку Купалу сваёй вялікай эрудыцыяй, суровасцю і прастатой. Янка Купала падараваў яму свае кніжкі. На кніжцы «Шляхам жыцця» ён напісаў: «В.Я. Брусаву на добрую памятку першага спаткання ў Вільні ад вучня і паклонніка. Вільня, 13/VIII 1914 года». Праз некаторы час Купала пачынае атрымліваць ад Брусава лісты з перакладамі вершаў на рускую мову.

Вайна ўсё мацней давала сябе знаць у Вільні. З фронту пачалі прыходзіць сумныя весткі аб гібелі таварышаў Купалы. Асабліва ўразіла Янку Купалу смерць Лявона Гмырака[1], вельмі здольнага маладога празаіка, і Юзіка Пашкевіча (брата Цёткі). Купалу непакоіў лёс Якуба Коласа, які тады быў на фронце.

16 студзеня 1915 года за артыкул «Думкі» быў канфіскаваны другі нумар газеты «Наша Ніва». Я. Купала як рэдактар прыцягваўся да судовай адказнасці. Справа была перададзена пракурору Віленскага акруговага суда. Многія вершы Янкі Купалы здымаліся цэнзурай. Працаваць было немагчыма. З Вільні пачалі выязджаць. Янка Купала таксама вырашыў выехаць, здзейсніць сваю запаветную думку аб вучобе і 5 верасня 1915 го-да паехаў у Маскву, дзе паступіў у Народны універсітэт імя Шаняўскага.

***Уладзіслава ЛУЦЭВІЧ***

[1] Лявон Гмырак (1891–1915) – беларускі пісьменнік і публіцыст. Празаічныя творы падпісваў «Б. Заяц».

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–30)*

Хіба, скажам, зусім выпадкова Колас з пачатку жніўня 1917-га пачынае друкавацца ў газеце «Вольная Беларусь» (раздзелы з «Сымона-музыкі»), што пачала выходзіць па волі Беларускага нацыянальнага камітэта (утвораны ў сакавіку) і на чале з Я. Лёсікам (Коласаў дзядзька) толькі з канца мая?! Значыць, уведаў, што ёсць такое выданне, якое ставіць для Беларусі не толькі культурна-асветныя задачы, але і пытанні дзяржаўнай аўтаноміі. Да канца года ён яшчэ надрукуе ў «Вольнай Беларусі» не адзін свой твор (новыя раздзелы з «Сымона-музыкі», алегарычныя апавяданні, акты з п'есы «Антось Лата», названы вышэй нарыс «З румынскага фронту»).

У верасні з воінскім эшалонам вяртаецца з Румыніі, а 20-га атрымлівае адпачынак па хваробе (жаўтачка, пацямненне лёгкіх) і едзе ў г. Абаянь да сям'і. І ўжо там даведваецца, што ў Петраградзе адбылася новая рэвалюцыя, што зусім хутка не менш за лютаўскую глабальна страсяне былую царскую Расію. Ва ўсіх сферах. І ўсіх жывых на той час. І нават новыя пакаленні. Вынікі яе і для Коласа будуць самыя розныя, у тым ліку і цяжкія.

## Пастаяннае месца жыхарства – Мінск

Маецца на ўвазе тое, што ў 1921 годзе, паблізу свайго 40-годдзя, бесkватэрны Якуб Колас пераедзе ў Мінск, дзе нарэшце для яго будуць пастаянныя кватэра і праца.

З 1918-га да лютага 1921-га, пасля вяртання з Румынскага фронту, шляхі-дарогі ягоныя будуць у Курскай губерні, дзе запынілася яго сям'я. Далекавата (11 вёрст) ад Абаяні яму знойдзецца месца ў школе. «Я ўстаю раненька. Юрка і Даніла спяць. Іду ў школу, а ўвечары тупаю назад. І гэтак кожны дзень. А жылі мы на адной бульбе. На цэлы тыдзень мелі мы на чатыры душы 21 бульбіну. Я падаў ад знясілення... Падхапіў я "іспанку"... Памераў тэмпературу – больш за сорак... Ляснуў я градуснік аб стол і пайшоў...» (М. Лужанін. «Колас...»). Тым не менш і пры такіх умовах знаходзіць час прадаўжаць працу над паэмай «Сымон-музыка» (да 4 жніўня 1918 года ўжо напісанае выйдзе асобным выданнем у Мінску, у выданні «Вольнай Беларусі», а ў кастрычніку-лістападзе будзе закончаная першая рэдакцыя гэтага твора). У снежні на валасным настаўніцкім сходзе яго як лепшага настаўніка абіраюць членам валаснога савета па народнай асвеце. І яшчэ: «У Ліпаўцы мяне, беспартыйнага, але граматнага і "спачуваючага" – быў такі тэрмін! – выбралі сакратаром партыйнай ячэйкі» (М. Лужанін).

*1919 год.* На пачатку года ў Курску праходзіць медыцынскую камісію, дзе вызначаецца, наколькі ён падыходзіць да вайсковай службы. Не прыклікаюць, але да 26 лістапада мусіць пакінуць новае месца працы ў сувязі з наступленнем дзянікінскіх войск, пасля пераводзіцца ў іншую школу, дзе і зноў новыя клопаты. («Трэба было пачынаць усё спачатку: школьная мэбля расцягнута ці спалена, не было кніг і вучэбных дапаможнікаў».)

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*








# кавальскі малаток...

***Нават у гарачыню прыемна прайсціся звілістымі брукаванымі вулачкамі старажытнага Давыд-Гарадка, што ў Столінскім раёне. Паглядзець на асаблівасці архітэктуры тыповых местачковых цагляных будынкаў, якіх нямала засталося з даваеннага, польскага і нават царскага часу.***

Ад мясцовых жыхароў даведаўся, што ў горадзе захавалася кузня. І што самае галоўнае, а ў наш час нават дзівоснае, – у будынку па-ранейшаму, як і на працягу многіх дзесяцігоддзяў, не змаўкае, звініць кавальскі малаток, захоўваюцца сакрэты народнага ўмельства.



Таму з вялікім задавальненнем і цікавасцю накіраваўся да старой цаглянай кузні, каля якой чамусьці размясціўся камерцыйны шапік. Дзверы ў майстэрню былі расчынены. Гаспадар, пабачыўшы мяне, выйшаў насустрач. Ласкава павітаўся, пазнаёміліся. Мікалай Антонавіч Марчук, 1931 г.н., яшчэ на вуліцы захоплена пачаў расказваць пра сябе, пра сваю справу:

– Дзед мой суправаджаў грузы, якія вазілі па рэках. Кавалём жа пачаў працаваць мой бацька. Гэтаму рамяству яго навучыў брат. Было тое яшчэ пры цары.

Пасля невялікага маўчання Мікалай Антонавіч з гонарам паведаміў:

– Бацька мой, Антон Паўлавіч Марчук, 1896 г.н., служыў у царскай арміі, унтэрафіцэрам. Кузню гэтую ён зрабіў у 1936 годзе. Наймаў спецыяльна людзей. Калісьці ў нас не было такога, што адзін чалавек майстар на ўсе рукі. Кожны меў сваю працу: нехта рабіў абутак, нехта быў бондарам, а нехта і кавалём. У час вайны ўсе дакументы, што бацька з'яўляўся кавалём, а таксама на гэты будынак, згарэлі. Давялося мне хадзіць нават у архіў, шукаць, узнаўляць.

Пасля знаёмства са сваім радаводам каваль запрасіў у майстэрню. Там працаваў напарнік Міхаіл Гаўрылавіч Крым, 1951 г.н., рабіў цяпку. Аказваецца, цяпер гэта самы часты заказ. Каб яго выканаць, майстру патрэбна прыкладна адна гадзіна. Побач стаяў металічны стол, дзе чырванела вуголле, на якім награвалася жалеза. Гэта і ёсць кавальскі горан, які раней выглядаў зусім не так. Ды і колішняга меха, пры дапамозе якога раздімалі вуголле, няма. Цяпер ён мадэрнізаваўся ў доўгі шланг, што падведзены да стала-горана. Па гэтым шлангу паступае да вуголля паветра.

– То антрацыт. Гэта калісьці выкарыстоўвалі драўнянны... 

весны вугаль. Рабілі з пнёў, якія выкарчоўвалі. Такі вугаль быў лепшы, чым антрацыт. Для яго патрабавалася меншае дуццё. І тэмпературу ён захоўваў дольш, – паведаміў майстра.

З захопленасцю Мікалай Антонавіч пачаў расказваць пра ранейшую працу каваля:

– Калісьці ж і заказаў было... Рабілі ўсё, што патрэбна ў гаспадарцы, у хаце. Гэта і сталовыя прыборы, і ухваты, якімі выцягвалі з печы чугункі, гаршчкі, а таксама люшкі – пячныя засаўкі, заслонкі. Кавалі сякеры. Яны былі двух відаў: маленькія, каб кляпаць косы (іх называлі абух стальны), і вялікія. Рабілі бабкі, таксама двух відаў: вострыя (вастрыё прыкладна 5 мм) і квадратныя (прыкладна 40х40 мм). Кавалі плугі, бароны. У камору, у кухры майстравалі замкі, якія былі ўразнымі і вісячымі. Абкоўвалі ўзорыстымі планкамі кухры, рабілі для іх металічныя восі і колцы. Шмат заказвалі людзі жалезнякоў – своеасаблівых вострых рыдлёвак. Рабілі таксама падковы з уразнымі шыпамі. Ой, раней коней было ў Давыд-Гарадку не сотні, а тысячы!..

Падзяліўся майстра і некаторымі сакрэтамі кавальскай справы. Напрыклад, каб зрабіць моцную, трывалую зварку, два кавалкі металу трэба накладваць адзін на адзін толькі крыху.

Узгадаў Мікалай Антонавіч і сваё дзяцінства, школьныя гады. Як асвойваў складанае рамяство.

– Я вучыўся ў польскай школе з 1937 года. Калі прыйшлі саветы, то нас перакінулі на адзін год назад. Памятаю, заходзіць настаўніца ў клас і кажа на рускай мове: «Здравствуйте, дети!». Мы ёй адказваем на польскай мове: «Дзень добры, паненко!» А кавальскую справу я пачынаў асвойваць з самага простага: рабіў цвікі – адцягваў дроцік. Гэта праца мне спадабалася. Потым навучыўся клешчы трымаць, малаток. Вось так усё жыццё і працаваў кавалём. З 1950 года на суднаверфі. Пасля ў электрасетках. На пенсію адправілі раней, у 1981 годзе, за шкоднасць работы. Але справе сваёй не здрадзіў, таму і да гэтага часу працую кавалём, кожны дзень. Жонцы кажу, што, мабыць, тут і памру. Будзеш шукаць у кузні.

Мікалай Антонавіч прыпыніў аповед. Падышоў да напарніка, нешта падказаў, параіў...

– Раней было багата кавалёў, – працягнуў майстар. – Пры Польшчы чалавек 80. І кожны меў працу, якой заўсёды хапала. Цяпер пайшло ўсё завадское. Многага не робім. Напрыклад, вазы ўжо на рэзінавым ходу, а раней мы акоўвалі колы. Цяпер падшыпнікі, а калісьці рабілі чугунную ўтулку.

З сумам гаварыў каваль і пра тое, што яго брат Павел Антонавіч, 1922 г.н., хоць і добра ведае сакрэты рамяства, але не займаецца ім, бо на пенсіі, удзельнік вайны, мае розныя ільготы. Сыны таксама не хочуць працягваць справу бацькі і дзеда.

– Кажуць, што дым, жарко. Яны робяць вадзіцелямі. І ўнук мой вадзіцель. Я, можна сказаць, застаўся адзін каваль на ўвесь Давыд-Гарадок, – зазначыў Мікалай Антонавіч.

Падзякаваў за цікавы аповед. Ужо развіталіся. Але я крыху пастаяў яшчэ, пагледзеў на тое, як каваль даставаў з горана чырвонае, распаленае жалеза, як потым лёгка яно згіналася пад ударамі малатка, які трымалі ўмелыя рукі майстра...

***Нягледзячы на спёку, прыемна прайсціся звілістымі брукаванымі вулачкамі колішняга мястэчка. Паглядзець на асаблівасці архітэктуры цагляных будынкаў, якіх нямала засталося з даваеннага, польскага і нават царскага часу. Хочацца спадзявацца, што яшчэ доўга ў старой кузні будзе весела звінець малаток, будуць захоўвацца сакрэты народнага ўмельства.***

***Ігар ГРЭЧКА,***
***фота аўтара***

*Традыцыі і сучаснасць*

# Жывое сёння старажытных міфаў

*«Ur'ia» – «Рай коню», Мн., 2007, «БМAgroup»*

***Роўна год таму наша газета прадставіла сваім чытачам другі альбом знакамітага фольк-рок-гурта «Юр'я», які меў назву «Калі Чакра» («Краязнаўчая газета» № 25 за 7 ліпеня 2006 года). Пасля таго ў прэсе была пагалоска, што нібыта на тым і спыняецца супрацоўніцтва калектыву з лэйблам «БМAgroup», але вось мінуў традыцыйны студыйна-канцэртны год і... На тым жа «БМAgroup» выходзіць чарговы каларытны томік плённых вынікаў няўрымслівага творчага досведу Юрыя Выдронка ды ягоных сяброў.***




Назву новаму альбому даў гэткі калядны рамансэро «Рай коню», у якім кавалер Іванька раіцца з сваім адзіным сябрам – канём – пра свой самотны лёс, пішучы лісты да таткі і да мамкі, а яго тым часам дзеўкі з Новым годам віншуюць ды гуляць клічуць. І такі рэпертуар (калядныя, валачобныя, купальскія песні) традыцыйны для гурта «Юр'я», хоць працуе калектыў у плыні жорсткага псіхадэлік-року. Як традыцыйнай стала і мастацкая аздоба з выкарыстаннем фантасмагарычных карцін легендарнага беларускага мастака-касмаганіста Язэпа Драздовіча (таго самага, якому стаіць помнік перад уваходам у Траецкае прадмесце, непадалёк ад рэдакцыі «Краязнаўчай газеты»).

Але гэта, бадай, і ўся традыцыйнасць, бо музыка гурта «Юр'я» аж надзвычай арыгінальная. Чулі вы, напрыклад, класіку рока 1970-х кшталту «Led Zeppelin»? А ўнікальных стваральнікаў сінтэтычнай плыні world music «Deep Forest» 1990-х? Такія розныя калектывы, што немагчыма іх неяк і ўявіць побач. Але вось гурту «Юр'я» ўдалося выявіць блізкасць да іх абодвух. І нават з'ядначць паміжсобку іхніх колісь непрымірымых фэнаў.

Ну які «цэпелінаман» не заахвоціцца віртуознымі пасажамі Юрыя Задзірана на гітары ў песні «Конік»! А які прыхільнік world music не дацэніць прыродную чысціню народных спеваў ад карэнных аўтахтонаў беларускага Палесся ў трэках «Мамачка», «Я скакала», «Тры анёлы»! А як сам Юры Выдронак навучыўся пераймаць народныя вакальныя традыцыі!

Выйду я дай подывлюся,
Ці не бяжыць гэй конік
з поля.
Ці не бяжыць гэй конік
з поля,
*Ці не едзе дай моя доля?*

І, дарэчы, акурат у творчасці Ю. Выдронка прыкметна апантанае захапленне ГУКАМ. Ён адзін з нямногіх у нас зорак папулярнай музыкі, якія займаюцца канструяваннем свайго адметнага гуку. Менавіта таму гучанне ягонага «Юр'я» так захапляе і старых, і маладых.

Дарэчы, у назвах двух апошніх прыгаданых твораў многія з вас, пэўна, пазнаюць адгалоскі з рэпертуару гуртоў «Kriwi», «Troitsa», але менавіта ў параўнанні такіх розных версіяў знакамітых народных песень да вас, магчыма, дойдзе і прыхаваны іхні сэнс. Дый музыкант «Kriwi» іранскі курд Масуд Талібані, з якім Выдронак супрацоўнічаў яшчэ ў часы «Палаца» і «Kriwi», невыпадкова прыняў удзел у запісе.

Як зазвычай, «Юр'я» не быў бы «Юр'ем», каб банальна кінуў на рынак звычайную падборку аўдыётрэкаў. Дык што ж чакае ўладальніка новага рэлізу праслаўленага калектыву на багатым мультымедыя дыска? Гэта амаль паўгадзінны фільм «Ur'ia Live in Warsaw», дзе, акрамя дадатковых песень («Шчодры вечар», «Суботачка», «Агу, вясна» ды фрагмент «Зэлен дубочок») з удзелам польскіх музыкаў, можна падзівіцца і неверагодна багатай сцэнаграфіі еўрапейскіх канцэртаў беларускага калектыву.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА,***
***музычны крытык***




*Фота Уладзіміра ПУЧЫНСКАГА*

# І ад удзячных сібіракоў

Аляксандр Дунін-Гаркавіч нарадзіўся ў 1854 годзе, як сведчаць дакументы, што захоўваюцца ў Табольскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі-запаведніку, «в м. Рожане Рожанскага прыхода». Закончыў Гродзенскую класічную гімназію. Пасля – Лісічанскае сярэдняе прафесійнае вучылішча, што пабліззу Санкт-Пецярбурга. Служыў у войску, удзельнічаў у руска-турэцкай вайне, пабываў у Сафіі і Плеўне, атрымаў баявы медаль. Пасля – 13 гадоў у лясніцтвах Разаншчыны.

А следам, зведаўшы водгукі пра Дуніна-Гаркавіча як выдатнага спецыяліста, нашага земляка запрашаюць галоўным ляснічым Самараўскага лясніцтва – самага буйнога па тым часе ў Расійскай імперыі. Так Дунін-Гаркавіч парадніўся з Табольскам.

Будучы выключна дасведчаным арганізатарам лесагаспадарчай справы, наш зямляк захапіўся і гісторыка-геаграфічнымі даследаваннямі. Правёў некалькі экспедыцый па поўначы Заходняй Сібіры. Напісаў у некалькіх тамах грунтоўную гісторыка-краязнаўчую манаграфію «Табольская Поўнач».

Сёлетнім чэрвенем у Ханты-Мансійску – сталіцы Ханты-Мансійскай аўтаномнай акругі Югры адкрыты помнік Аляксандру Дуніну-Гаркавічу. Вітанне жыхарам акругі з нагоды ўрачыстасцяў даслаў і прэзідэнт Расійскай Акадэміі навук Юры Осіпаў. Вось што ён, у прыватнасці, зазначыў: «Мне вельмі блізкія справы ўшанавання памяці буйнога вучонага і выдатнага чалавека Аляксандра Дуніна-Гаркавіча, якая праводзіцца ў Ханты-Мансійску. На сібірскай поўначы, у месцах, якія ён дасканала абследаваў і да якіх быў прывязаны па-чалавечы, усталяваны яго манумент. Гэта гістарычна правільны крок».

Дарэчы, Юрый Осіпаў – ганаровы прэзідэнт грамадскага фонду «Адраджэнне Табольска», у планах дзейнасці якога значацца многія праекты, звязаныя з памяццю пра А. Дуніна-Гаркавіча.

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

# Касалапая «бабулька»

***Хто з вас можа пахваліцца, што сустракаўся нос у нос з касалапым гаспадаром беларускіх бароў? Ды не ў цырку, не ў звярынцы, а ў лясным царстве? А вось Леаніду Маліноўскаму пашчасціла.***

Аднойчы разам са сваімі студэнтамі з Беларускага тэхналагічнага інстытута ён праводзіў практыку ў Барысаўскім раёне, каля вёскі Іконы. Быў грыбны год, і Леанід Мікалаевіч, заўзяты грыбнік, вольны час праводзіў у лесе. І вось аднойчы між дрэў убачыў старэнькую жанчыну з паўвядзерцам грыбоў. Яму стала шкада бабульку, і Леанід прапанаваў: «Бабулька, давайце я вам дапамагу дазбіраць вядзерца». «Дзякуй, сынок, – адказала жанчына, – не трэба. Паўвядзерца я занясу дадому, потым зноў прыйду. Грыбоў хапае. Вунь колькі іх. Хутка прыедуць унукі, будзе чым пачаставаць». Леанід таксама сабраўся ўжо адпраўляцца ў вёску, але ўбачыў сапраўдны дыван з махавікоў, палосамі, радамі!.. Пачаў іх рэзаць, рэзаць...

Раптам з'явілася адчуванне, што ён тут не адзін. Многім знаёмае гэтае пачуццё: нікога не бачыш, а адчуваеш, што нехта за табою назірае. Але грыбнік так заняты сваёй справай, што не хоча нават галаву падняць...

Нехта цяжка ўздыхнуў. «Мабыць, зноў гэтая бабулька, назад вярнулася, – думае Леанід». І, не падымаючы галавы (проста няма сіл адарвацца ад грыбоў), пытае: «Бабулька, колькі ж вам гадоў?» Маўчанне...

Дзіўна. Значыць, не бабулька. Хто ж тут можа быць? Леанід узнімае галаву. Побач, за два крокі, за ім назірае... мядзведзь. Падымаючыся на ватных нагах, Леанід не адводзіць позірку ад звера. Успомнілася правіла, якому ён вучыў студэнтаў на лекцыях па паляўнічазнаўстве: гледзі ў вочы зверу і не паказвай, што яго баішся. Але адна справа – тэорыя, і зусім іншая – практыка. Паспрабуй не баяцца, калі ён побач! Гэта ў цырку мядзведзь такі рахманы. А тут ён гаспадар, які сустрэўся з няпрошаным госцем.

І вось замест таго, каб кінуць усё і ратавацца, Леанід чамусьці бярэ ў рукі сумкі. Потым пачынае адступаць: крок, яшчэ крок. Метраў праз пяць наткнуўся на дрэва. Марудна-марудна (хаця б не паваліцца – тады «канцы»!) яго абыходзіць. Свярбіць думка: калі накінецца, трэба шпурнуць насустрач сумку – гэта павінна адцягнуць яго ўвагу. Дробнымі крокамі Леанід усё адступае і адступае. Але толькі ад таго месца, дзе стаяў. Адлегласць паміж ім і мядзведзем не павялічылася ні на крок. Касалапы рухаецца следам: не набліжаецца, але і не адстае – трымае дыстанцыю. Чутно, як вавёрка прадзіраецца скрозь лісце, але ніводнага гуку не вырвалася з-пад лап мядзведзя: ні галінка не трэснула, ні лісток не зашамацеў.

Калі ж гэта ўсё скончыцца? Час цягнецца бясконца. Адчуў пад нагамі ўкатаную каляіну дарогі і чарапашым крокам пачаў рухацца ў бок вёскі па дарозе. Можа, хоць хто-небудзь з'явіцца. Але – нікога няма. Задам-задам – толькі б не паваліцца. Адны карані навокал. Жудасць бярэ... А касалапы, як і належыць сапраўднаму гаспадару, спакойна і ўпэўнена крочыць побач, па ўзбочыне. Час здаецца вечнасцю, а дарога – бясконцай. І вось яны на дзялянцы лесу для падсочкі. Тут як быццам мяжа праходзіць: гладкаствольны лес, яркае сонца. Ля мяжы мядзведзь прыпыніўся. Дарога пайшла ўніз, а змучаны грыбнік, не адрываючы позірку ад небяспечнага суседа, усё такімі ж дробнымі крокамі адступаў назад, хаваючыся за дрэвы. Нарэшце ён павярнуўся і, не верачы ў сваё выратаванне, з усяе моцы кінуўся наўцёкі...

Тая сустрэча з касалапым назаўсёды засталася ў памяці Леаніда. Вось толькі цікава: чаму мядзведзь прыпыніўся ля мяжы каля паляны з падсочкай? Напэўна, тут праходзіла мяжа яго уладанняў, з якіх ён і выгнаў няпрошанага госця.

*Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ*



*Фота Ігара ГРЭЧКІ*

*Землякі ў свеце*

*Барыс БАРОЎСКІ*

# Ураджэнцы Беларусі ў арміі Андэрса падчас Другой сусветнай вайны



(Працяг. Пачатак у № 29–30)

Напярэдадні эвакуацыі польскай арміі ў Іран камандаванне Чырвонай Арміі запатрабавала адклікання непалякаў з польскіх часцей. Аднак генерал У. Андэрс 22 красавіка 1942 г. выдаў сакрэтны загад па польскай арміі аб раўнапраўным трактаванні яе нацыянальных меншасцей, згодна з якім звальнянь непалякаў дапускалася толькі па стане здароўя. У выніку, па дадзеных камандавання польскай арміі, за перыяд з 1 ліпеня па 1 жніўня 1942 г. па стане здароўя з польскай арміі было звольнена 350 ваеннаслужачых, у тым ліку 24 праваслаўных. Аднак, па дадзеных галоўнага праваслаўнага капелана польскай арміі айца Курыласа, толькі з адной 6-й пяхотнай дывізіі было звольнена 475 праваслаўных вайскоўцаў. Згодна з афіцыйнымі дадзенымі польскага камандавання, сярод эвакуіраваных у Іран вайскоўцаў было 1397 беларусаў. Аднак у сапраўднасці, згодна з архіўнымі дадзенымі, іх было не менш 6–8 тысяч.

## Акалічнасці перадыслакацыі арміі з тэрыторыі СССР

Пазіцыя Польшчы адносна перадыслакацыі польскай арміі з тэрыторыі СССР на Блізкі Усход фарміравалася пад уздзеяннем цяжкасцей, якія былі ў Савецкім Саюзе па яе ўзбраенні, харчовым і іншым неабходным забеспячэнні, фарміраванні новых злучэнняў, умовах утрымання на фоне недастатковага даверу да савецкіх уладных структур ваеннаслужачых арміі, выкліканага прабываннем у лагерах ваеннапалонных, турмах, ссылцы, і пад уплывам пазіцыі ўрадаў Вялікабрытаніі і ЗША.

На прапановы польскага боку аб эвакуацыі польскай арміі з СССР, магчыма, таксама паўплывала незадавальненне У. Андэрса «тым, што лічачы магчымым і жадаючы стварыць большую польскую армію ў СССР, ён не меў дазволу Вярхоўнага Галоўнакамандавання Чырвонай Арміі на фарміраванне новых злучэнняў... большая колькасць польскіх афіцэраў, сярод якіх ёсць асабіста вядомыя Андэрсу, не вызвалены з мест зняволення...Цяжкае фінансавае становішча, якое склалася на канец кастрычніка (1941 г. – **Аўт.**), неўрэгуляванасць пытання з зімнім расквартэраваннем, перабоі ў матэрыяльным забеспячэнні, цяжкасці з будаўніцтвам...», аб чым канстатавалася ў даведцы НКУС, зробленай І. Сталіну напярэдадні першага візіту прэм'ер-міністра Польшчы У. Сікорскага ў СССР.

У час сустрэчы У. Сікорскага з І. Сталіным 3 снежня 1941 г. ён, у прыватнасці, падняў пытанне аб умовах жыццядзейнасці польскай арміі ў СССР у месцах з суровым кліматам, з 30–35-градуснымі марозамі пры адсутнасці цёплых казармаў; выказаў занепакоенасць, што воіны перамруць, не на карысць справе вайны з Германіяй. Сказаў, што меў размову з У. Чэрчылем адносна магчымасці перанясення лагера фарміравання польскай арміі ў іншае месца, напрыклад, у Іран, дзе яна будзе ўзброена і экіпіравана Вялікабрытаніяй.

Тым не менш, савецкі бок пагадзіўся на павелічэнне колькасці польскай арміі да 96 тысяч чалавек з фарміраваннем новых дывізій і даў згоду на вывад у Іран палякаў, якія не задзейнічаны ў фарміраванні злучэнняў. Такім чынам, У. Сікорскі атрымаў згоду на эвакуацыю з СССР на Блізкі Усход 25 тысяч польскіх салдат з яшчэ не сфарміраваных часцей, а ў Вялікабрытанію польскіх лётчыкаў і маракоў.

Першыя загады аб эвакуацыі часткі польскіх войск з СССР У. Андэрс аддаў 19 сакавіка 1942 г.

За восем дзён (з 25 сакавіка 1942 г.) праз базу ў Краснаводску было эвакуіравана 31488 польскіх ваеннаслужачых і 12455 членаў іх сем'яў (па іншай інфармацыі, за час эвакуацыі з 24 сакавіка па 4 красавіка 1942 г. з СССР у Іран выехала звыш 33 тысяч вайскоўцаў і 12 тысяч цывільных асоб). Пасля гэтага савецкі ўрад заявіў, што «эвакуацыя з СССР польскіх ваеннаслужачых цалкам завершана» і прапанаваў польскаму боку ліквідаваць базы ў Пэхлеві і Казвіне.

31 жніўня 1942 г. адбылася савецка-польская ваенная канферэнцыя, на якой быў падпісаны пратакол эвакуацыі.

Ва ўмовах, калі пачалася Сталінградская бітва, прайшоў другі этап эвакуацыі польскай арміі з СССР. Эвакуацыя праходзіла з 9 па 31 жніўня 1942 г. За час другой эвакуацыі ў Іран выехала звыш 44 тысяч вайскоўцаў і 25 тысяч цывільных асоб. Усяго з СССР у Іран (і Ірак) за дзве эвакуацыі выехала каля 80 тысяч ваеннаслужачых і больш 37 тысяч членаў іх сем'яў (па крыніцах, з СССР выехала каля 115 тысяч чалавек). Усяго ў Пэхлеві прыбыла 69917 чалавек, у тым ліку 41103 ваенных. 12 тысяч чалавек было накіравана ў Вялікабрытанію.

Некалькі афіцэраў на чале з палкоўнікам З. Берлінгам адмовіліся ехаць у Іран і засталіся ў СССР. З. Берлінг узначаліў фарміраванне ў СССР польскіх узброеных сіл: у 1943–1944 гг. быў камандзірам 1-й пяхотнай дывізіі імя Т. Касцюшкі (12–13 кастрычніка 1943 г. пад в. Леніна Горацкага раёна Магілёўскай вобл. дывізія прыняла свой першы бой), затым камандзірам 1-га польскага корпуса, камандуючым 1-й польскай арміі (корпус быў пераўтвораны ў армію). 21 ліпеня 1944 г. 1-я польская армія аб'ядналася з арміяй Людовай з утварэннем Войска Польскага, якое налічвала на канец 1944 г. каля 300 тысяч чалавек, а на пачатак мая 1945 г. – каля 400 тысяч чалавек.

## Дзеянні арміі пасля эвакуацыі

Пасля эвакуацыі польскай арміі з СССР узмацнілася супрацьстаянне прэм'ер-міністра Польшчы У. Сікорскага з У. Андэрсам. У студзені 1943 г. У. Андэрс патрабаваў адстаўкі У. Сікорскага з пасады прэм'ер-міністра. Яшчэ больш абвастрыла сітуацыю германскае паведамленне ад 13 красавіка 1943 г. аб выяўленні ў Катынскім лесе пад Смаленскам масавых пахаванняў польскіх афіцэраў, расстраляных вясной 1940 г. Польскі ўрад звярнуўся ў Міжнародны Чырвоны Крыж з просьбай расследаваць гібель польскіх афіцэраў у Катыні (з аналагічнай просьбай звярнулася і Германія).

(Працяг на стар. 8)





*(Працяг. Пачатак на стар. 7)*

У гэтых умовах урад СССР абвінавазіў палякаў у садзеянні Гітлеру і, з улікам вываду польскай арміі з тэрыторыі СССР, парушаючы савецка-польскія пагадненні ад 30 ліпеня і 14 жніўня 1941 г., заявіў аб прыпыненні дыпламатычных адносін з польскім эміграцкім урадам. Дыпламатычныя адносіны былі перарваны 25 красавіка 1943 г.

У Іране часці польскай арміі перайшлі пад брытанскае аператыўнае камандаванне, атрымалі брытанскую зброю, рыштунак і уніформу «батлдрэз» з польскімі адзнакамі. У выніку аб'яднання з Войскам Польскім на Сярэднім Усходзе была створана (12 мая 1942 г.) Польская армія на Усходзе. Камандуючым арміі застаецца У. Андэрс. Падначаленыя яму сілы былі дыслацыраваны ў Іраку за 140 км на паўночны ўсход ад Багдада і ўключалі 3-ю, 5-ю, 6-ю, 7-ю пяхотныя дывізіі, танкавую брыгаду і 12-ты ўланскі полк. Гэтыя часці былі размешчаны ў вучэбных лагерах і праходзілі рэабілітацыю, рыхтаваліся да баёў, займаліся інтэнсіўнай баявой падрыхтоўкай пад наглядам брытанскіх ваенных саветнікаў.

У чэрвені 1943 г. з складу Польскай арміі на Усходзе быў вылучаны 2-гі польскі корпус пад камандаваннем У. Андэрса.

Доўгае бяздзеянне часцей У. Андэрса вяло да хваляванняў іх ваеннаслужачых, зніжэння дысцыпліны, што разам з ростам супрацьстаяння прэм'ер-міністра Польшчы У. Сікорскага з У. Андэрсам вымусіла У. Сікорскага ажыццявіць інспекцыйную паездку ў часці 2-га польскага корпуса. Пры вяртанні пасля інспекцыі 4 ліпеня 1943 г. самалёт У. Сікорскага зваліўся ў Міжземнае мора каля Гібралтара. У. Сікорскі і іншыя пасажыры, у тым ліку яго адзіная дачка, шыфравальшчыца прэм'ер-міністра, загінулі (абставіны авіякатастрофы засталіся нявысветленымі).

Саюзнае камандаванне вырашыла выкарыстаць 2-гі польскі корпус у баях за Італію ў складзе саюзных войск. Першыя 8 тыс. салдат корпуса 15 снежня 1943 г. высадзіліся на поўдні Італіі і да 6 красавіка 1944 г. асабовы склад усяго корпуса быў перапраўлены ў Італію. На іншых крыніцах, 50-тысячны 2-гі польскі корпус у студзені-лютым 1944 г. пераведзены ў Італію, прайшоўшы шлях праз Іран, Ірак, Палестыну, Егіпет.

## Удзел арміі ў баявых дзеяннях у Італіі

### Уступленне і дзеянні саюзных войск у кантынентальнай Італіі

Разлікі саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі на тое, што падзенне фашысцкага рэжыму ў Італіі (25 ліпеня 1943 г.), захоп Сіцыліі англа-амерыканскімі войскамі (10 ліпеня – 17 жніўня 1943 г.) і капітуляцыя італьянскай арміі (3 верасня 1943 г. Італія капітулявала і выйшла з вайны) значна аблегчаць уступленне іх войск у кантынентальную Італію і яе вызваленне з авалоданнем Рыма, не спраўдзіліся. Нямецкія войскі, хоць і пазбавіліся свайго саюзніка, акупіравалі значную частку Італіі, стварылі на ёй марыянетачную «рэспубліку Сало», падрыхтавалі магутныя загараджальныя лініі «Густаў» і «Гітлер», якія на поўдзень ад Рыма перакрывалі тэрыторыю Італіі з усходу на захад і перашкаджалі прасоўванню саюзных войск на поўнач краіны. «Лінія Гітлера» пры гэтым праходзіла праз 10 і больш кіламетраў за «лініяй Густава».

3 верасня 1943 г. 8-я брытанская армія ўступіла з Сіцыліі ў кантынентальную Італію, а 5-я амерыканская армія высадзілася на бераг у раёне Салерна (на поўдзень ад Неапаля), і немцы адступілі да «лініі Густава». Гэта лінія ўяўляла сабой прыродны ўмацаваны абарончы рубеж, які перасякаў Італію ад кропкі на поўнач ад Артоны на Адрыятыцы да вусця ракі Гарыльяна на заходнім узбярэжжы. На ёй замацаваліся 18 нямецкіх дывізій групы армій (10-я і 14-я арміі) пад камандаваннем генерал-фельдмаршала А. Кесельрынга (галоўнакамандуючы нямецкімі войскамі Паўднёвага Захаду: Міжземнамор'е–Італія). Асноўнай абарончай пазіцыяй на «лініі Густава» разам з вышынямі Монтэ-Каіра, Сан-Анжэла і Паса-Корна было Монтэ-Касіна.

Монтэ-Касіна – гэта скалістае ўзвышша (знаходзіцца за 150 км на паўднёвы ўсход ад Рыма), на якім на вышыні 516 м над узроўнем акіяна размяшчалася адна з ключавых, стратэгічных кропак «лініі Густава» – сярэднявечны кляштар святога Бенедыкта (помнік сусветнага значэння, пабудаваны ў 459 г.), а таксама каля падножжа – бальнеалагічны курортны гарадок Монтэ-Касіна. У раёне Монтэ-Касіна праходзіла падвойная абарончая лінія, якая перагароджвала дарогу з Неапаля ў Рым праз даліну ракі Ліра. Каб узяць Рым, перад гэтым трэба было прарваць фронт і ўзяць Монтэ-Касіна. Кляштар абараняла элітная нямецкая 1-я парашутна-дэсантная дывізія, узмоцненая некалькімі батальёнамі горных стралкоў.

Войскі саюзнікаў безвынікова асаджалі «лінію Густава» і вышыню Монтэ-Касіна каля 5 месяцаў. За гэты час яны правялі 4 наступленні.

Удзельныя ў наступленні амерыканскія, канадскія, англійскія, французскія, новазеландскія і індыйскія часці (таму аперацыю па авалоданні «лініяй Густава» і Монтэ-Касіна называлі «бітвай народаў») страцілі 57 тыс. чалавек (па іншых крыніцах, звыш 52 тыс. чалавек, у тым ліку 8340 забітымі).

У сакавіку ўдалося заняць толькі перадгорны гарадок Монтэ-Касіна, а сама вышыня і кляштар, дзе размяшчаўся нямецкі гарнізон, заставаліся непрыступнымі.

Вось як апісаў ход бітвы за Монтэ-Касіна (па ўспамінах сведкаў тых падзей) паміж нямецкімі часцямі і саюзнымі войскамі ў сваёй аповесці «Смерць і салаўі» ўдзельнік баёў за Монтэ-Касіна (служыў у пяхоце ў чыне паручніка 5-й пяхотнай дывізіі 2-га польскага корпуса, меў 4 раненні), наш зямляк з Вілейшчыны пісьменнік Пётра Сыч.

Нямецкая абарона была сканструявана так, што «нават мусе цяжка было б праляцець жывой». Мясцовасць, дзе знаходзіліся войскі саюзнікаў, была пад абстрэлам з чатырох бакоў. Першы штурм пачалі часці 5-й амерыканскай арміі. «Амерыканцы біліся і памiралі па-спартыўнаму... Ішлі, жуючы гумку, і гінулі». З цяжкасцямі яны здабылі мястэчка Касіна, якое было ўшчэнт разбурана, але далей сустрэлі магутнае супраціўленне і, сцякаючы крывёй, адступілі. Французскія часці мелі пэўныя поспехі, але таксама панеслі вялікія страты. На месца 5-й амерыканскай арміі прыйшла 8-я англійская армія, у складзе якой знаходзіліся новазеландскія і індыйскія часці. 15 лютага пачалі атаку на Монтэ-Касіна англічане, але здолелі атакаваць толькі частку комплексу нямецкай абароны – вышыню 593 і, сцякаючы крывёй, адышлі. 17 лютага пайшлі ў наступ індыйскія часці, сярод якіх былі гуркі, якія «ішлі ў атаку з нажамі ў зубах» і таксама панеслі жахлівыя страты. 15 сакавіка захлынулася крывавая атака на Монтэ-Касіна. Пасля загаду адступіць «спаўзло з гары» толькі 40 салдат індусаў і ніводнага афіцэра. Страціўі баяздольнасць новазеландскія падраздзяленні.

Пасля трох няўдачных наступленняў галоўнакамандуючы групай армій саюзнікаў генерал Александэр вырашыў пакончыць з распыленнем сіл па ўсёй шырыні Італіі (з усходу на захад па «лініі Густава») і стварыць магутную групоўку на сваім паўднёвым крыле.

*(Працяг будзе)*

## Купанне ў спякоту: радасць і слёзы

Цешыць лета і гараджанаў, і вяскоўцаў – цёплыя дзянькі, можна пакупацца ў возеры альбо рэчцы. Купальны сезон працягваецца, на пляжах па вечарах і ў выхадныя дні шмат людзей, якія з радасцю аддаюць сябе ў абдымкі вады і хваляў. Але, на жаль, гэтыя прыемныя імгненні часам заканчваюцца трагічна. Штотыднёва на вадаёмах Мінска гінуць людзі. Толькі з 30 ліпеня па 6 жніўня патанулі 2 чалавекі. Ад пачатку ж года водная стыхія забрала жыцці 37 чалавек.

31 ліпеня быў трагічны выпадак у Цэнтральным раёне сталіцы. Там у дэкаратыўнай сажалцы, размешчанай на тэрыторыі прыватнага домаўладання, патануў 4-гадовы хлопчык.

Супрацоўнікі МНС яшчэ раз звяртаюць вашую ўвагу на тое, што неабходна трымацца правілаў паводзінаў на вадзе; дарослым раяць уважліва прыглядаць за сваімі дзецьмі, не пакідаць іх без дагляду.

**Вольга ХВАШЧЭЎСКАЯ, інспектар ЦРАНС**

**Спасаўскія святкі ў беларускім народным календары складаюцца з трох частак: 14 жніўня – Першы, Мядовы Спас або Макаўе; 19 жніўня – Другі Спас, які яшчэ называюць Вялікім, Сярэднім, Яблычным; 29 жніўня – Малы або Хлебны, Арэхавы Спас.**

19 жніўня а 14-й гадзіне ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту пад назвай «Спасаўка-ластаўка» адбудзецца свята, прысвечанае Спасаўскім святкам. Супрацоўнікі музея запрашаюць усіх прыняць удзел у цікавай праграме, пад час якой на яблычным кірмашы можна будзе набыць яблыкі, вырашчаныя жыхарамі суседніх вёсак, даведацца пра сучасныя і колішнія гатункі, ад галоўнага агранома музея пачуць пра асаблівасці вырошчвання не толькі яблыкаў, але садавіны і агародніны ў цэлым. Асобная размова будзе, хто такі Спас, як нарадзіліся Спасаўскія святкі, адкуль бярэцца «арабінавая ноч». Можна паспрабаваць свае здольнасці ў народных гульнях.

Падчас святочных мерапрыемстваў адбудзецца малебен і асвячэнне новага ўраджаю.

Падкажам нашым чытачам, што да прыпынку «Музей» можна праехаць прыгараднымі аўтобусамі ад аўтастанцыі «Паўднёва-Заходняя» ў напрамках Музей, Азярцо, Гарадзішча, Дубянцы, Заходнія могілкі. Тэлефоны для даведак: 209-41-63, 506-53-81.

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ГАСЦІНЫ ДОМ** – комплекс збудаванняў, дзе захоўваліся тавары, часова пражывалі і гандлявалі купцы. Складаліся з гандлёвых, складскіх будынкаў і жылых памяшканняў гасцінічнага тыпу. У Заходняй Еўропе вядомыя з XIV ст. З гэтага перыяду пачалі засведчвацца і ў Беларусі (Полацк, Гродна), маючы ў комплексе краму, каморы, жылыя і гаспадарчыя памяшканні, важніцы і мерніцы. Манументальным лічыцца комплекс сярэдзіны XVII ст. у Віцебску. Вызначаўся двухпавярховы драўляны гасціны дом у XVIII–XIX стст. у Тураве. У XVII–XIX стст. на аснове гасціных дамоў пачалі пашырацца гандлёвыя рады, што мелі толькі гандлёвыя і складскія памяшканні, часта злучаліся з ратушамі.



*Фрагмент гасцінага двара на Кобрынскім фарштаце ў Брэсце (1-я палова XIX ст.)*

**ГАШТОЛЬД** (Гаштаўт) Альбрэхт (? – 1539) – дзяржаўны дзеяч ВКЛ. На пачатку XVI ст. займаў розныя адказныя пасады, быў ваяводам навагрудскім (1507–1509), полацкім (1514), трокскім (1519–1522), канцлер ВКЛ (з 1522 г.) З роду Гаштольдаў. Браў удзел у падрыхтоўцы Статута ВКЛ 1529 г. Менавіта па яго ініцыятыве былі зацверджаныя прававыя нормы, па якіх неўраджэнцы ВКЛ не мелі права займаць пасады і набываць маёмасць у гэтай дзяржаве. Садзейнічаў ініцыятыве аддзяліць ВКЛ ад Польшчы ў самастойную краіну. Спрабаваў выселіць з яе польскіх каталіцкіх манахаў за іхняе ігнараванне беларускай мовай і інтарэсаў народа. Быў найбагацейшым магнатам свайго часу. Верагодна, быў ініцыятарам стварэння першай разгорнутай рэдакцыі беларуска-літоўскіх летапісаў. З папярэднiх Гаштольдаў найбольш вядомыя былі Андрэй (? – каля 1410) – намеснік віленскі (1386), крэўскі (з 1390 г.), чый маёнтак у Геранёнах мог стаць рэзідэнцыяй роду, – і яго ўнук Ян (? – 1458), ваявода трокскі (1440–1443) і віленскі (з 1443 г.). У 1410 г. узначаліў групоўку магнатаў, якая дамагалася абрання вялікім князем ВКЛ сына Ягайлы Казіміра, стаў яго выхавальнікам і фактычна правіцелем ВКЛ. Пасля абрання Казіміра каралём Польшчы перайшоў у апазіцыю да яго.



*А. Гаштольд (надмагілле ў Віленскім кафедральным касцёле (1540 г.)*

**ГВАНЬІНІ** Аляксандр (1534, г. Верона, Італія – 1614) – гісторык. Служыў у войску ВКЛ. З 1561 г. удзельнічаў у Лівонскай вайне 1558–1583 гг., як камендант Віцебска ўмацаваў гарадскую фартыфікацыю. Паранены ў 1564-м, узяты ў палон рускім атрадам, але быў адбіты. У 1578-м выдаў у Кракаве на лацінскай мове «Хроніку Еўрапейскай Сарматыі» (2-е выд. было ў 1581-м), у якой шмат звестак па гісторыі і геаграфіі ВКЛ, апісаны гарады і крэпасці Беларусі, звычаі і абрады яе насельнікаў.

Паводле ўспамінаў Д. Міцкевіча (сын Якуба Коласа) «Любіць і помніць» (Мн., 2000), апісанем Гваніні метадаў землярobства на беларускіх землях вельмі цікавіўся яго бацька і ў Мінску, пры сваім доме, праводзіў на гэты конт розныя мерапрыемствы.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19.03.2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320, ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26, 334 61 62. Тэл./факс 334-42-03
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары дасылаючы ў рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, хатні адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 16.08.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14). Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 998.
Тыраж 1270 асобнікаў.